Гродна
№ 5 (416),
8 сакавіка 2015

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ






# ВЕЛІКАПОСНЫЯ ПАСТАНОВЫ 2015 – ВЯЛІКІ ЧАС ПРАЦЫ НАД САБОЙ

**У Папяльцовую сераду ў каталіцкім Касцёле распачаўся перыяд Вялікага посту. Літургія гэтага дня заахвочвала спыніцца ў штодзённай мітусні і засяродзіцца над уласным жыццём. Як кожны год, тысячы вернікаў ва ўсім свеце на бліжэйшыя 40 дзён узялі пастановы, якія павінны дапамагчы ўпарадкаваць жыццё.**

З чым у першую чаргу ў нас атаясамліваецца перажыванне Вялікага посту? Рашучая большасць адкажа, што з адмовай ад чагосьці. Гэта праўда, бо не без прычыны кажуць, што няма веры без ахвяры. Але гаворка не ідзе пра мазахістычныя пакуты праз сілу ці пра навязаныя кімсьці абмежаванні, але пра пэўнае добраахвотнае намаганне, якое павінна прынесці добры плён і дапамагчы стаць бліжэй да Езуса Хрыста.

Св. Павел гаварыў пра ўтаймаванне свайго цела і “ўзяцце яго ў няволю”. Безумоўна, велікапосныя пастановы – гэта пэўная барацьба паміж целам і духам, і яе мэта – паказаць: здольны чалавек быць гаспадаром самому сабе ці, аднак, цела, якое часта мае не зусім добрыя жаданні, кіруе чалавекам.

працяг на с. 4

## Каляндар падзей

*13 сакавіка*
*ІІ гадавіна выбару Святога Айца Францішка на пасад святога Пятра. Молімся за Папу.*

*19 сакавіка*
*урачыстасць св. Юзафа, Абранніка НПМ. Дзень Імянін Папы на пенсіі Бенедыкта XVI, а таксама дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага.*

***Заахвочваем да ўдзелу ў велікапосных набажэнствах Песень жальбы і Крыжовага шляху, а таксама ў велікапосных рэкалекцыях.***

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***“Голас Евангелля”***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.* ***Кожную нядзелю ў 8.00*** *запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***“Сімвал веры”***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2”*
***16 сакавіка***
***ў пандзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Інтэрнэт-апытанне
**www.grodnensis.by**

***Ці посціце Вы ў перыяд Вялікага посту?***
- *толькі па пятніцах*
- *некалькі дзён на тыдзень*
- *на працы (ва ўніверсітэце, у школе) не, дома – так*
- *як дома, так і на працы (ва ўніверсітэце, у школе)*
- *толькі час ад часу*
- *не, не разумею сэнсу посту*


**выкажыся**

**Які за нас цярпеў ад ранаў, Езу Хрыстэ, змілуйся над намі!**




### III НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Ян 2, 13–25**

Набліжалася юдэйская Пасха, і Езус прыйшоў у Ерузалем. І знайшоў у святыні тых, хто прадаваў валоў, авечак і галубоў, і мянялы сядзелі там. І зрабіў бізун з вяровак, і павыганяў усіх са святыні, а таксама авечак і валоў, грошы мянялаў парассыпаў, а сталы папераварочваў. А прадаўцам галубоў сказаў: "Забярыце гэта адсюль і не рабіце дому Айца Майго домам гандлю". І прыгадалі вучні Ягоныя, што напісана: "Клопат аб доме Тваім з'ядае Мяне".

На гэта юдэі сказалі Яму ў адказ: "Які знак пакажаш нам, што можаш гэтак рабіць?" Езус сказаў ім у адказ: "Зруйнуйце святыню гэтую, і Я за тры дні ўзнясу яе".

І сказалі юдэі: "Гэтая святыня будавалася сорак шэсць гадоў, а Ты ўзнясеш яе за тры дні?"

Казаў жа Ён пра святыню цела свайго. І калі Ён уваскрос з мёртвых, то вучні Ягоныя ўспомнілі, што Ён казаў гэта, і паверылі Пісанню і слову, якое казаў Езус.

І калі Ён быў у Ерузалеме на свяце Пасхі, многія, убачыўшы ўчыненыя Ім цуды, паверылі ў імя Ягонае. Але сам Езус не давяраўся ім, бо сам ведаў усіх і не меў патрэбы, каб хто сведчыў пра чалавека, бо сам ведаў, што было ў чалавеку.

## ТРЭБА СЦЕРАГЧЫСЯ БОЖАГА ГНЕВУ!

Самым каштоўным у Евангеллі з'яўляецца гэты апошні сказ. Ён можа абуджаць у сэрцы неспакой, але для вучня Хрыста гэта гарантыя таго, што Хтосьці дакладна ведае, кім мы на самой справе з'яўляемся. А ведаючы пра нас усё, не адмаўляецца ад нас. Ён няспынна аднаўляе свой давер. Ён гатовы за нас памерці і для нас уваскрэснуць. А калі трэба, то і раптоўна прыгадаць, каб мы ўшанавалі тое, што належыць Богу. Справы могуць ускладніцца, калі мы ўзгадаем, што нашае цела з'яўляецца "Божай святыняй, і што Святы Дух жыве ў нас".

### IV НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Ян 3, 14–21**

Езус сказаў Нікадзіму: "Як Майсей узвысіў змяю ў пустыні, так павінен быць узвышаны Сын Чалавечы, каб кожны, хто верыць у Яго, меў жыццё вечнае. Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго. Хто верыць у Яго, не будзе асуджаны, а хто не верыць, той ужо асуджаны, таму што не паверыў у імя Адзінароднага Сына Божага.

А суд у тым, што святло прыйшло на свет, але людзі больш палюбілі цемру, чым святло, бо ўчынкі іхнія былі дрэннымі. Таму кожны, хто чыніць зло, ненавідзіць святло і не ідзе да святла, каб не адкрыліся яго дрэнныя ўчынкі. А хто паступае па праўдзе, ідзе да святла, каб яўнымі былі ўчынкі ягоныя, бо яны здзейсненыя ў Богу".

## АДКАЗ НА САМЫЯ ЦЯЖКІЯ ПЫТАННІ

Нікадзім праз свае боязі і страхі аднолькава навукі Езуса блізкі нам. Ён не разумее яе да канца, ён хацеў бы спытацца, высветліць, больш зразумець. Але ён баіцца асяроддзя. Кніжнікі не маюць сумненняў: для іх Езус – гэта калі не блюзнер, то фальшывы прарок. На шчасце, акрамя дня ёсць ноч, якая дадае адвагі, бо ахінае плашчом таямніцы гэтую незвычайную сустрэчу.

І так, як часта бывае, раскрываючы таямніцы, мы даведваемся аб тым, што з'яўляецца найважнейшым. Нікадзім той ноччу, а з ім сёння і ўсе мы, пачуў: "Так палюбіў Бог свет..." Палюбіў... Гэта важна – ведаць, што нас любяць. Ды як! "...аддаў Сына свайго Адзінароднага". Мы не ведаем далейшай гісторыі Нікадзіма. Ці быў ён сведкам працэсу мукі Езуса? Ці бачыў паміраючага Езуса на крыжы? Ці спаткаў Яго Уваскрослага? Ці паверыў Яго любові і стаў нам яшчэ бліжэйшым праз веру?

***Кс. Яраслаў Грынашкевіч***

# Пост як перыяд любові Бога

**СЛОВА РЭДАКТАРА**



*Кс. Павел Салабуда*

Сорак дзён Вялікага посту дапамагаюць нам зразумець, наколькі моцна Бог любіць сваё стварэнне. Крыж становіцца бачным знакам гэтай жа любові. Падчас Вялікага посту можна заўважыць вялікі дар набожнасці нашых людзей, які дазваляе захаваць надзею, што дзякуючы Богу і Яго Провіду ўсё, нават тое, што здаецца неверагодным, зменіцца на лепшае. Гэты дар дазваляе многім з нас падчас велікапоснага перыяду трываць пры крыжы, дзякуючы Богу. Чалавек павінен таксама сталець у адданасці Богу, давяраючы Яму ўсё глыбейшыя прасторы свайго сэрца. Пастава ўдзячнасці пры крыжы вучыць таксама даверу. Варта даверыцца Богу, пераадольваючы ўсе цяжкасці і "цемру" сённяшняга часу.

Блізкасць любові Бога вядзе за сабой адкрыццё людскога граху, унутранай заганы і бруду, што ставіць чалавека перад аблічам Бога ў пакоры. Грэх выклікае пакуты, а Божая любоў з'яўляецца лякарствам, якое лечыць сэрцы. Гледзячы на крыж, мы павінны ўвесь час прыгадваць сабе, што гэта дрэва жыцця, а не смерці, ласкі, а не граху. Менавіта дзякуючы крыжу здзяйсняюцца вялікія справы любові Хрыста да чалавека.

Падчас посту мы павінны прасіць аб большай сыноўскай любові да Бога, якая ніколі не дазволіць параніць сэрца добрага Айца. Нават няверуючы чалавек здольны належным чынам ацаніць сапраўдную любоў. Колькі людзей прыходзіла і прыходзіць да крыжа! Людзей згубленых, пакутуючых, грэшных... Крыж дазваляе чалавеку знайсці згубленую любоў і годнасць, узбагачаючы наша духоўнае жыццё, аб развіцці якога мы заўсёды павінны клапаціцца. Знаходзячыся разам з Хрыстом каля крыжа, мы станем сведкамі вялікай любові Бога да чалавека, а таксама чалавека да Бога і іншага чалавека.

**Няхай пост стане для кожнага з нас часам досведу Божай любові. Давайце паспрабуем на шляху перажывання Вялікага посту адчуць бязмерную Божую любоў у нашым штодзённым жыцці, і тады мы да канца сваёй зямной вандроўкі застанемся апосталамі Любові, якая нас збаўляе.**




# Ліпнішкі

ДЭКАНАТ ІЎЕ

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

*• працяг з папярэдняга нумара*



*Інтэр'ер парафіяльнай святыні*

Інтэр'ер касцёла падзелены на тры навы васьмю калонамі і перакрыты скляпеннямі на падпружных арках, якія ўпрыгожаны архітэктанічнымі размалёўкамі. Унутраную прастору ўпрыгожваюць тры драўляныя неагатычныя алтары. Галоўны, тытульны алтар – св. Казіміра, левы бакавы – Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса (наверсе ў ім змешчаны абраз св. Ганны) і правы – Маці Божай Шкаплернай (з абразом Маці Божай Добрай Рады наверсе). Над уваходам у выглядзе балкона зроблены хоры з арганам.

Тэрыторыя касцёла на пачатку ХХ ст. абнесена бутавай агароджай, галоўны ўваход пазначаны трохпралётнай брамай, увенчанай чатырма пінаклямі.

З даўняга часу да ліпнішскай парафіі была прыпісана капліца ў Зыгмунцішках, перад ІІ Сусветнай вайной колькасць парафіян перавышала 8000. У 1936 г. старажытная капліца ў Зыгмунцішках была разабрана і перанесена на парафіяльныя могілкі ў Ліпнішкі. Сёння святыня выглядае як характэрнае для XIX ст. збудаванне – прамавугольны ў плане зруб з трохгранным алтарнай часткай накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Унутры над уваходам размешчаны хоры на двух калонах-балясках. Могілкі абнесены бутавай агароджай (часткова выкарыстаны старыя надмагіллі) з цікавай трохпралётнай брамай. У 1996 г. тэрыторыя могілак пашырана.

У савецкі час касцёл св. Казіміра дзейнічаў бесперапынна, але ў 1951 г. улады канфіскавалі будынак плябаніі. Пробашч быў вымушаны пасяліцца над сакрыстыяй. У 1970-я гг. касцёл быў залічаны да помнікаў архітэктуры. Таксама ў спіс помнікаў архітэктуры трапіла і прыдарожная капліца на плошчы. А вось могілкавая капліца была занядбана, але аднолькава добра захавалася.

19 сакавіка 1976 г. пробашчам у Ліпнішках стаў кс. Караль Францішак Шчэпанэк OFMCap (+2004), з таго часу парафію абслугоўваюць капуцыны. У 1991 г. генерал ордэна даў згоду на заснаванне ў Ліпнішках манаскага дома, разлічанага на трох манахаў. Дом пабудаваў пад плябанію яшчэ а. Караль напрыканцы 1980-х гг. Гэта аднапавярховы з мансардай дом з сілікатнай цэглы, які амаль апошнім стаіць пры выездзе на Тракелі. У алтары хатняй капліцы змешчаны абраз св. Юзафа.

Цяпер да ліпнішскай парафіі належаць капліцы ў Камянчанах і Цэнтральнай. Таксама айцы капуцыны, якія апекуюцца парафіяй, абслугоўваюць Князюкоўцы і Некрашы.



*Алтары касцёла св. Казіміра*

***"Слова Жыцця" прадстаўляе ўвазе чытачоў праект пад назвай "На службе Богу", прысвечаны Году кансэкраванага жыцця. З гэтага часу ў газеце будуць публікавацца гісторыі пакліканняў кансэкраваных асоб, якія жывуць і працуюць у Гродзенскай дыяцэзіі. Свет патрабуе сведкаў, якія ўкажуць іншым сапраўдныя хрысціянскія каштоўнасці і сваім жыццём і радасцю спаткання з Уваскрослым абудзяць свет.***

НА СЛУЖБЕ БОГУ
НОВЫ ПРАЕКТ

ГОД КАНСЭКРАВАНАГА ЖЫЦЦЯ
НА СЛУЖБЕ БОГУ

# Кожны, хто шукае Бога, знойдзе Яго

***Сёння сваю гісторыю распавядае сястра Філатэя з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.***



## Мае бацькі не ведалі Бога

*"Я нарадзілася ў Гродне ў сям'і працоўных. Мае бацькі жылі без Бога, але гэта не было іх свядомым выбарам. У савецкія часы вера жорстка праследавалася і вынішчалася. А як казаў апостал Павел, вера ад слухання. Не было людзей, якія маглі б перадаць веру маім бацькам, а яны – нам, сваім дзецям".*

І хоць маці не ведала Бога, была цвёрда перакананая, што дзяцей трэба хрысціць. Дзяўчынка, якую назвалі Наталля, была ахрышчана ў гродзенскім Пакроўскім саборы. Гэта стала пачаткам яе жыцця ў Богу, але, на жаль, дар духоўнага жыцця дзяўчыны доўгія гады не развіваўся. Адзінае, што яна магла чуць пра Бога, – сцвярджэнне, што Яго няма. Так вучылі ў школе.

*"І хоць ніхто пра Госпада мне не расказваў, памятаю, што з самага дзяцінства я пастаянна насіла ў сабе пачуццё тугі па нечым. Як казаў святы Аўгусцін, «стварыў Ты нас, Божа, для Сябе, і неспакойнае сэрца нашае, пакуль не спачне ў Табе»".*

У юнацкім узросце дзяўчына часта задавала сабе пытанні аб сэнсе жыцця. Яна не магла пагадзіцца з тым, што са смерцю ўсё заканчваецца. І каб напоўніць жыццё сэнсам, Наталля пачала жыць па камуністычных ідэалах.

*"Чалавек – істота рэлігійная, створаная Богам, каб усёй сваёй існасцю імкнуцца да Яго. І калі чалавек не пакланяецца жывому Богу, ён будзе служыць ідалам. Так, на нейкі час, і я супакоіла сваё сэрца, жывучы камуністычнымі ідэямі, але ў глыбіні душы ўсё роўна адчувала тугу па Богу, якога яшчэ не ведала. Памятаю, якой катастрофай для мяне стаў час перабудовы, калі руйнаваліся ідэі, якіх я прытрымлівалася. І тады я зноў задалася пытаннем, у чым жа сэнс жыцця".*

## Першую Камунію я прыняла ва ўзросце 18 гадоў

Дзяўчына паступіла ў політэхнікум. Нішто не вылучала яе сярод іншых. Любіла сустракацца з сябрамі, хадзіла разам з імі на танцы. Займалася плаваннем, наведвала заняткі па аэробіцы. Аднойчы Наталля прызналася сваёй сяброўцы Ганне, што хацела б верыць у Бога. І была здзіўлена: тая ходзіць у касцёл. Менавіта тады прыйшло ўсведамленне, што, можа быць, яна жыве сярод вернікаў, але проста гэтага не ведае.

Праз нейкі час Ганна прывяла Наталлю ў касцёл. З часам дзяўчына даведалася, што ўпершыню трапіла ў святыню на Грамніцы, у дзень, калі мы молімся за кансэкраваных асоб. Ці не сімвалічна? Пасля стала рэгулярна збірацца ў нядзелю на Імшу. Прыходзіла, таму што адчувала ў душы радасць і супакой. Калі даводзілася прапусціць нейкую нядзелю, сэрца агортваў сум.



З сяброўкай Ганнай

Аб тым, што Наталля ходзіць у касцёл, Ганна распавяла дома. І тады цёця прапанавала запрасіць сяброўку ў госці, каб паразмаўляць з ёю наконт Першай Камуніі. Такім чынам, гэтая сям'я паклапацілася аб тым, каб Наталля прыняла адзін з самых важных сакраментаў.

*"Я памятаю, як цёця распавядала мне пра Езуса. Я ўсім сэрцам слухала тое, што яна мне казала, адчувала вялікую радасць. З моманту Першай Камуніі, якую я прыняла ў 18 гадоў, пачаўся мой свядомы шлях да хрысціянскага жыцця. На гэтым шляху Бог акружыў мяне людзьмі глыбокай веры, за што я вельмі Яму ўдзячная. Я бачыла, што Усявышні з'яўляецца для гэтых людзей рэальнай асобай, а не абстракцыяй. Гледзячы на іх жывую веру, я хацела пазнаць жывога Бога і ўсяляк да гэтага імкнулася".*

## Ніхто не насыціць мяне так, як Бог

Праз нейкі час Наталля трапіла ў неакатэхуменальную супольнасць пабернардынскага касцёла.

*"У супольнасці я адказвала за малітву ў песні. Спявала, каб служыць людзям. Бачу ў гэтым дар Бога".*

Члены супольнасці шмат часу прысвячалі малітве Божым словам, разважанням над ім. Праз гэтую практыку дзяўчына спазнала любоў Бога, якая захапіла яе. Прыйшло ўсведамленне таго, што ніхто не насыціць яе так, як Бог, і захацелася ўсё сваё жыццё прысвяціць Яму. У гэты ж час Наталлі ў рукі трапіў дзённік святой Тэрэзы ад Дзіцятка Езус. Дзяўчына ўсвядоміла, што сястра Тэрэза бачыла Бога вачыма веры кожны дзень, у розных паўсядзённых сітуацыях. Яна зразумела, што хоча перажываць такія ж адносіны з Богам.

## Як брат ажэніцца, пайду ў манастыр

Першыя думкі аб манаскім жыцці ўзніклі ў дзяўчыны за тры гады да ўступлення ў манастыр. Але тады яна была яшчэ не гатова прыняць канчатковае рашэнне. Яно наспявала паступова. Калі ёй споўнілася 22 гады, жаданне прысвяціць сваё жыццё Богу стала мацней. Але была і часцінка сумневу – ці хоча гэтага Бог. Наталля малілася аб распазнанні свайго паклікання. У сваіх малітвах яна таксама прасіла, каб брат сустрэў дзяўчыну, з якой створыць добрую сям'ю. Тады Бог зможа яе забіраць, бо бацькі будуць спакойныя, што дачакаюцца ўнукаў, якіх вельмі хацелі.

*"Так і здарылася. Брат ажаніўся, а праз месяц я пайшла ў манастыр. Я яшчэ была сведкай у яго на вяселлі. Шлюб пара брала ў пабернардынскім касцёле".*



Бласлаўленне маці падчас вечных шлюбаў

## Новае імя – новае жыццё

*"Памятаю, я любіла прыгожа апранацца. Калі давялося збіраць дакументы для паступлення, пайшла да пробашча за характарыстыкай. У размове са мной ён зрабіў акцэнт на тым, што ў кляштары дадуць толькі адну сукенку. Я тады падумала: але ж яна будзе найлепшая".*

Дзяўчыну прынялі ў пастулят, малодшае паслушэнства. Яна жыла разам з сёстрамі, малілася, прыглядалася да іх ладу жыцця. Адначасова з гэтым вучыла дзяцей рэлігіі ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы. Праз год перайшла на наступны этап – навіцыят. Яго мэта – усталяваць глыбокія і індывідуальныя адносіны з Богам.

*"У навіцыяце нам даюць белы вэлюм і новае імя. Новае імя – новае жыццё. Я хацела, каб у мяне было імя, якое б сімвалізавала маю місію, жыццёвы кірунак. Калі прачытала кнігу Францішка Сальскага, у памяці засталося імя Філатэя. Праз яго Францішак звяртаўся да душы чытача, што азначала «душа, якая любіць Бога». Я падумала, што хацела б, каб маёй місіяй было любіць Госпада, адказваць любоўю на Яго любоў. Хоць разумею, што любоў – гэта ахвяра, уменне забыць пра самога сябе. Вось ужо 20 гадоў, як я жыву з гэтым імем і вучуся сапраўднай любові да Бога. Поўнасцю маё імя цяпер гучыць – Марыя Філатэя ад Святой Тройцы".*

Пасля двух гадоў навіцыяту сястра Філатэя склала першыя манаскія абяцанні, на год. Далей – юніярат. На працягу чатырох гадоў яна працавала катэхеткай у Навагрудку. Перад самымі вечнымі шлюбамі паехала ў Варшаву на гадавую падрыхтоўку. Там выконвала розныя абавязкі: працавала ў пральні, сталовай, на кухні. Больш часу прысвячала малітве і паглыбленню асабістых адносін з Богам, каб навечна сказаць Яму "так".

## Мы ўзрастаем у Богу

У жніўні 2002 года ў касцёле сясцёр назарэтанак у Гродне сястра Філатэя склала вечныя шлюбы. Пасля засталася ў родным горадзе і працавала катэхеткай на Дзевятоўцы.

*"Як я ўжо прыгадвала, мае бацькі не ведалі Бога, таму ім было нялёгка зразумець мой выбар. Бацька, здаецца, аж да самай смерці не мог пагадзіцца з гэтым... Цяпер, я спадзяюся, ён нават рады майму рашэнню" (усміхаецца).*

Маці з часам пагадзілася з выбарам дачкі. Каля 10 гадоў таму яна таксама прыйшла да веры і стала сведкам яе вызнання.

Сёння сястра Філатэя з'яўляецца настаяцельніцай супольнасці сясцёр назарэтанак у Гродне. Акрамя гэтага, адказвае за падрыхтоўку да вечных шлюбаў сясцёр, якія знаходзяцца ў юніяраце.

*"Некаторыя людзі, напэўна, думаюць, што ў манастыры сабраліся анёлы, што там няма ніякіх цяжкасцей. Не, мы таксама людзі, якія толькі імкнуцца да святасці. Мы проста ведаем, што калі ўсё аддаём Богу і перажываем з Ім, то ўзрастаем у Яго любові".*

***Ангеліна Пакачайла***

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Пустыня – гэта месца, дзе можна пачуць голас Бога і голас спакусніка. У пустыні мы можам зазірнуць у глыбіню – туды, дзе на самой справе вырашаецца наш лёс, жыццё або смерць. Але як пачуць голас Бога? У Яго слове. Таму вельмі важна пазнаваць Святое Пісанне, бо ў іншым выпадку мы не зможам адказаць на атакі д'ябла. Пустыня Вялікага посту дапамагае нам сказаць "не" марнасці, ідалам, дапамагае прымаць адважныя рашэнні згодна з Евангеллем і ўмацоўваць салідарнасць з братамі.*

*Анёл Панскі са Святым Айцом, 22.02.2015*

***Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч***



*Мы былі створаны па вобразе і падабенстве Божым. Але ці так ёсць? Можа, у нашых сэрцах знаходзіцца прыстасаваны да нашых патрабаванняў Бог? Можа, гэта Ён нам паслухмяны, а не мы Яму? Час 40-дзённай пакуты павінен стаць часам пазнання сябе і карэкціроўкі нашага жыцця. Чым раней мы заўважым трэшчыну ў сцяне дома, тым менш будзе шкоды і тым таннейшы рамонт. Падобным чынам адбываецца таксама з душой чалавека. Чым раней мы ўбачым грахоўную шчыліну і распачнем яе рамонт, тым больш ён будзе якасны, танны і не прынясе вялікай шкоды.*

*Фрагмент гаміліі ў Папяльцовую сераду*

***Кс. бп Антоній Дзям'янка***



*Святы Дух вядзе нас па велікапосным шляху – той самы Дух, які сышоў на Езуса і які быў нам падараваны падчас хросту. Вялікі пост, такім чынам, – гэта спрыяльны час, які павінен весці нас да ўсё большага разумення таго, наколькі Святы Дух, атрыманы на хросце, дзейнічае і можа дзейнічаць у нас. Напрыканцы велікапоснага шляху, у Пасхальную вігілію, мы зможам з большай свядомасцю абнавіць запавет, заключаны падчас хросту, і абавязкі, якія ён прадугледжвае.*

*Фрагмент гаміліі падчас Імшы для вязняў у Івацэвічах*




◆ *Латвійскі парламент адхіліў прапанову аб стварэнні інстытута "аднаполых саюзаў". Прапанова пасла Спаліціса павінна была дазваляць рэгістрацыю саюза пары таго ж полу, калі яна не можа ці не хоча заключаць традыцыйны сужэнскі саюз. Латвійскі міністр юстыцыі заявіў тады, што чарговым крокам пасля легалізацыі гомасексуальных саюзаў будзе патрабаванне ўзаконьвання права на ўсынаўленне імі дзяцей.*

◆ *Паводле арганізацыі "Human Life International", за апошнія 50 гадоў забіта 2 мільярды ненароджаных дзяцей, г.зн. адна трэцяя чалавецтва. Аб гэтым прыгадаў у Рыме Джозэф Міні, дырэктар па справах кардынацыі міжнароднай арганізацыі "Human Life International".*

◆ *Шпітальны Ордэн св. Яна Божага (баніфратры) быў узнагароджаны Еўрапейскай грамадзянскай прэміяй за 2014 год. Узнагарода Еўрапарламента прысуджваецца асобам ці ўстановам, якія асаблівым чынам праз канкрэтныя дзеянні развіваюць сужыццё і інтэграцыю паміж народамі Еўрасаюза. Ордэн баніфратраў быў прапанаваны на ўзнагароду іспанскім членам Еўрапарламента Габрыэлем Мато.*

◆ *Як падае еўрапейскае "Caritas", кожны чацвёрты еўрапеец (24,5%) жыве на мяжы ўбогасці ці сацыяльнай ізаляцыі. У 2013 г. амаль 123 мільёны грамадзян Еўрасаюза знаходзілася ў такой сітуацыі. Больш за ўсё ўбогасць і сацыяльная ізаляцыя пагражала жыхарам Румыніі – 40,4% і Грэцыі 35,1%. Для Германіі гэты працэнт склаў 16,1, а для Аўстрыі – 14,4. Сярэдні паказчык для Еўрасаюза – 16,7%. Паводле справаздачы, галоўнай прычынай такога стану з'яўляецца высокі ўзровень беспрацоўя, асабліва сярод моладзі. Найбольшы ён у Грэцыі, Іспаніі, Партугаліі і Італіі.*

◆ *Кітайскія ўлады ўзмацняюць рэпрэсіі адносна католікаў і хрысціян іншых канфесій, прымуючы будызм і канфуцыянства. Як падае кітайскі сацыёлаг Янг Фэнгана, у Кітаі сёння налічваецца ўжо больш за 180 мільёнаў хрысціян, 20 мільёнаў з якіх – католікі, а 160 – пратэстанты. На працягу наступных 15 гадоў колькасць вучняў Хрыста ў гэтай краіне можа ўзрасці да 250 мільёнаў.*

*pch24.pl; gosc.pl; credo-ua.org; niedziela.pl.*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# Велікапосныя пастановы 2015 – вялікі час працы над сабой

● *працяг са с. 1*

Сярод найбольш частых пастаноў можна вылучыць адмову ад салодкага, алкаголю, абмежаванне ў праглядзе тэлевізара. Некаторыя на гэта ўсміхнуцца, некаторыя зададуць пытанне: колькі гадоў запар можна адмаўляць сабе ў шакаладзе? У чым сэнс не есці чагосьці? Яны не лічаць, што адмова ад салодкага ці ад камп'ютарных гульняў мае нейкую сувязь з рэлігійнасцю. Але для тых, хто рашыўся адмовіцца ад такіх рэчаў, не ў ежы справа. Для іх на першы погляд нязначныя ахвяры маюць глыбокі сэнс – яны з'яўляюцца імпульсам да змен, каб стаць лепшым чалавекам.

Сярод вернікаў, якія хочуць плённа перажыць перыяд Вялікага посту, ёсць таксама тыя, для каго сэнс гэтага часу выходзіць па-за межы праблемы харчавання. Яны стараюцца больш часу прысвяціць сябрам, сям'і, унутрана суцішыцца, рэгулярна маліцца і ўдзельнічаць у набажэнствах – адным словам, узяць пастанову, што служыць духоўным зменам.

Што ж, кожны "пасціць" па-свойму, але самае важнае, каб чалавек заўважыў свае недахопы і шчыра захацеў пазбавіцца ад іх, каб зразумеў, што Вялікі пост з'яўляецца часам, падораным нам спецыяльна для таго, каб штосьці змяніць у сваіх паводзінах, каб знайсці месца для Бога ў сваім сэрцы і ў сваім штодзённым жыцці.

**Ад якіх прыемнасцей адмаўляюцца карыстальнікі інтэрнэта?**

Спрэчкі аб велікапосных пастановах адбываюцца не толькі падчас рэкалекцый ці размоў з ксяндзом. Асобы, якія карыстаюцца сацыяльнымі сеткамі, актыўна выказваюцца на гэтую тэму. Так карыстальнікі Твітэра склалі спіс прапаноў пакаянных практык. 21 тысяча "твітаў" уключае прапановы адмовіцца ад пэўных прыемных рэчаў у межах велікапосных пастаноў. Найбольшай папулярнасцю карыстаецца ежа – галоўным чынам ласункі і іншыя закускі. Акрамя гэтага, дастаткова распаўсюджана адмова ад ужывання тэхналагічных гаджэтаў. З'явіліся таксама жартоўныя прапановы. Ніжэй пададзены дваццаць самых частых варыянтаў:

| Прапанова | Колькасць "твітаў" |
|---|---|
| Шакалад | 1143 |
| Алкаголь | 681 |
| Твітэр | 645 |
| Сацыяльныя СМІ | 501 |
| Праклёны | 364 |
| Школа | 357 |
| Салодкасці | 333 |
| Салодкія напоі | 280 |
| Кава | 257 |
| Фастфуд | 253 |
| Чыпсы | 253 |
| Мяса | 251 |
| Хлеб | 196 |
| Джанк-фуд(англ. смеццевая ежа) | 184 |
| Секс | 150 |
| Фэйсбук | 148 |
| Пост | 134 |
| Піца | 116 |
| Пірожныя | 113 |
| Хатнія працы | 108 |

**Гаворачы пра інтэрнэт-карыстальнікаў, якія акрамя таго, што націскаюць на клавіятуру, часта з'яўляюцца вельмі веруючымі людзьмі, нельга абмінуць іх каштоўную падказку, ці, хутчэй, заахвочванне, адрасаванае самым забеганым і ўвесь час занятым людзям: карыстацца разважаннямі і рэкалекцыямі ў інтэрнэце ці на радыё, якія можна слухаць па дарозе на вучобу, на працу або проста дома. Яны напэўна дапамогуць сфарміраваць волю, паверыць у сябе, а таксама паглыбіць адносіны з Богам.**

*Як большасць "касцёльных" дзяцей, некалі на час посту я адмаўлялася ад салодкага і прагляду серыялаў, будучы падлеткам, посціла на хлебе і вадзе па пятніцах і серадах, сёння ж я ні ад чаго не адмаўляюся на час посту.*

Тэлебачання я не гляджу ўжо больш за 10 гадоў, а калі не ем больш чым палову дня, мне пачынае балець галава. Мне не падабаюцца людзі, якія адмаўляюцца ад нечага падчас посту, але ў той жа час з імі немагчыма размаўляць у гэты перыяд, бо яны злыя і нервовыя, таму што проста галодныя...

Я раблю іншыя пастановы. Гэта можа быць большае ахвяраванне на карысць патрабуючых, хворых дзяцей, якіх, на жаль, у нашым грамадстве дастаткова шмат; наведваю сяброў, якіх даўно не бачыла; высылаю паштоўкі; стараюся старанней выконваць штодзённую працу і зрабіць тое, што даўно адкладваю; размаўляю з жабракамі на вуліцах Мінска, а калі лічу, што тое, на што яны збіраюць грошы, вартае – даю ім іх або куплю хлеб ці лекі (бывае, што гэтым людзям дастаткова простай размовы, спачування і ўсмешкі). Я не адмаўляюся ад чагосьці яшчэ па адной прычыне. Раней здаралася, што калі не стрымлівала пастанову, я пачынала сябе ненавідзець, прыніжаць сябе ва ўласных вачах... А гэта дрэнна. Нянавісць ніколі не бывае добрай. Кажуць, што трэба ненавідзець грэх, але я слабая, таму не ўмею аддзяляць грэх ад чалавека. Калі я спрабую ненавідзець грэх, я аўтаматычна пераходжу на асобу: ці на сябе, ці на кагосьці іншага.

**Таму мая пастанова на Вялікі пост і ўвогуле на жыццё – не дазволіць нянавісці пасяліцца ў душы, больш любіць і дапамагаць у гэтым іншым. А ці ўдаецца мне гэта – Бог таму Суддзя.**


*Людміла Бурлевіч*

*Сёлета ўспрымаю Вялікі пост як шанс вярнуцца да каранёў, гэта значыць да Бога.*


*Марына Харэвіч*

На жаль, з дакладнымі пастановамі я пакуль так і вызначылася, а таму прыняла тое, што відавочна мне будзе карысна. Пастановы мае простыя, але ўсё ж ва ўсіх ёсць выключэнні, хоць я і разумею, што важна ў пастановах менавіта трывалацць. Каб крыху фізічна адчуць устрыманне, стараюся не есці мяса, хаця ў гасцях ці там, дзе гатую не сама, ем тое, што даюць. Ад салодкага, на жаль, адмовіцца не магу, бо гэта асноўная частка майго рацыёну. Напэўна, галоўнай пастановай было вярнуць у сваё жыццё стабільную малітву ранкам, увечары і цягам дня, але пакуль раблю толькі малыя поспехі ў гэтым накірунку – дзень на дзень не прыходзіцца. Яшчэ адзін важны момант – змаганне за цішыню (каб вызваліць месца для Бога). Дзеля гэтага стараюся ў сацсетку і пошту заходзіць толькі па неабходнасці (па працы ці па справе), а таксама слухаць менш музыкі. Цяпер для мяне гэта асабліва цяжка, бо я пачала хадзіць на заняткі танцаў, адпаведна хочацца дома паслухаць тэматычную музыку. Хоць цалкам яе не выкідаю са свайго жыцця, імкнуся, каб яе было меней. Другая справа – гэта імпрэзы, на якіх збіраюцца мае "калегі" па танцах і дзе вучацца танцаваць хутчэй, чым на звычайных уроках. Але пакуль і гэтыя вечарыны для мяне закрытыя. І хоць адмова ад гучных забаў – гэта відавочны выбар, у цяперашні перыяд ад мяне гэтае адрачэнне патрабуе больш. Ну, і яшчэ адна даволі асабістая пастанова – спрабую шукаць сябе і імкнуцца быць сабой: адкрываць менавіта свае жаданні, эмоцыі, памкненні. Калі сказаць коратка, то спрабую адкрыць сябе і наблізіцца да Бога.

**Можа, таму што пастаноў шмат і пакуль яны не надта канкрэтныя, я выконваю іх праз раз, хаця імкнуся да большага пастаянства.**

***Падрыхтавала Кінга Красіцкая***

# Навучэнцы гродзенскай семінарыі ўшанавалі рэліквіі бл. Міхала Сапоцькі



*"Гэта святар паводле Майго сэрца, Мне падабаюцца ягоныя намаганні".*

*Св. Фаўстына Кавальская*

З нагоды святкавання 25-гадовага юбілею заснавання семінарыі клерыкі на чале з кс. біскупам Юзафам Станеўскім і кс. рэктарам Раманам Рачко сустрэлі рэліквіі і абраз вядомага і шанаванага ў нашай краіне блаславёнага кс. Міхала Сапоцькі.

Дзякуючы рэкалекцыяністу кс. Яну Пузыну, вельмі прасякнутаму духоўнасцю кс. Міхала Сапоцькі, семінарысты мелі магчымасць не толькі фізічна, але і духоўна дакрануцца да спадчыны Блаславёнага і паразважаць над яго жыццём і думкамі.

Блаславёны Міхал Сапоцька, святар, апостал Божай Міласэрнасці, спавядальнік і духоўны айцец св. Фаўстыны Кавальскай, тэолаг, руплівы душпастар, выхавацель святароў велічна ўпісаны ў гісторыю паўсюднага Касцёла. Магчыма, менавіта ў той час Езус патрабаваў чалавека, які сваімі намаганнямі пацвердзіў бы тую праўду, аб якой казала св. Фаўстына Кавальская. Кс. Міхал з пакорай прыняў гэтае заданне і застаўся верны пасланню Хрыста да канца свайго жыцця. Але за сваю вернасць ён павінен быў плаціць няспынным цярпеннем: слухаць злаславія заўвагі, бачыць іранічныя ўсмешкі і нават сутыкацца з непаразуменнем з боку ўлады Касцёла. Але Божая ласка аказалася мацнейшай за чалавечыя слабасці.

Падчас канферэнцый кс. Ян Пузына падзяліўся з семінарыйнай супольнасцю сваім сведчаннем веры на шляху да святасці і дапамог будучым святарам аднавіць сваю сувязь з Хрыстом, разважаючы над тэмай "Блаславёныя ўбогія духам". Рэкалекцыяніст заўважыў, што ахвяра ў перыяд Вялікага посту не з'яўляецца самамэтай, а толькі неабходным сродкам, каб стаць на шлях паяднання з Хрыстом. Яна мае значэнне тады, калі мы знішчаем з глыбіні нашага сэрца тое, што нас нішчыць, а асабліва наш эгаізм. Кс. Ян Пузына нагадаў клерыкам, што ўзрастаць у пакліканні трэба толькі для таго, каб сваім служэннем і прыкладам жыцця праслаўляць веліч Бога, а не шукаць прызнання і павагі ад людзей.

Рэкалекцыяніст захоціў, каб менавіта праз постаць блаславёнага кс. Міхала Сапоцькі кожны з семінарыстаў паглыбляў сваю веру і клапаціўся аб чысціні сваіх інтэнцый у будаванні Божага Валадарства на зямлі.



*Унясенне рэліквій бл. кс. Міхала Сапоцькі ў ВДС адбылося 18 лютага. З гэтага часу рэліквіі будуць захоўвацца ў семінарыйнай капліцы.*

Святая Імша, набажэнства Песняў жальбы, Крыжовы шлях, супольныя і асабістыя малітвы падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, споведзь, разважанне над Святым Пісаннем – усё гэта дапамагло клерыкам плённа падрыхтавацца да велікапосных дарогі навяртання.

"Пазнаць Бога і самога сябе магчыма перш за ўсё падчас выпрабаванняў", – гаварыў блаславёны кс. Міхал Сапоцька. Таму тыя выпрабаванні, якія сустракаюцца на шляху да святарства, для сённяшніх клерыкаў хай стануць важным і неабходным крокам пазнання Бога і служэння Яму на працягу ўсяго жыцця.

***Кл. Яўген Амасёнак***

# Via Dolorosa

*"Найперш прыгадаем сабе на гэтым Крыжовым шляху словы Езуса Хрыста, які першы прайшоў па ім: «Калі хто хоча ісці за Мною, няхай возьме крыж свой і ідзе па Маіх слядах»".*

***Кардынал Стэфан Вышынскі***

Віа Далароза – гэта шлях, пройдзены Езусам Хрыстом, калі Ён нёс свой крыж з месца асуджэння да месца распяцця на Галгофе. Віа Далароза пачынаецца ў двары мусульманскай школы, дзе дзве тысячы гадоў таму была рымская крэпасць, вядомая як крэпасць Антонія, пабудаваная ў 36 годзе да нашай эры Ірадам Вялікім у гонар яго сябра Марка Антонія.

У 2012 годзе ізраільская пошта на блоку коштам 5 шэкелей паказала Ерузалем у часы другой Святыні, якая была аднаўлена царом Ірадам. На марцы размешчана фігура першасвятара. Малюнак Ерузалема зроблены на аснове мадэлі, распрацаванай прафесарам Майклам Аві Ёнам у 1960 годзе. Чырвоныя дахі – яўрэйскі квартал Старога горада на дадзены момант. За Святыняй знаходзіцца крэпасць Антонія, адкуль пачынаўся Крыжовы шлях Хрыста. На адным з двароў крэпасці, які называлі Літастрот (Lithostrotos – "Брукаванае месца"), адбыўся суд над Езусам (параўн. Ян 19, 13).

Паводле біблейскай традыцыі, апошні ўчастак дарогі на Галгофу (пагорак, які нагадвае чалавечы чэрап) быў размешчаны па-за гарадскімі сценамі. Выхад ажыццяўляўся праз Яфрэмаву браму. У некаторых богаслужбовых кнігах з апісаннем сцэн Крыжовага шляху гэтую браму называюць Судовай.

Працягласцю каля 1300 крокаў, Віа Далароза – за выключэннем пятніцы запоўненая кіёскамі і поўная мітусні – у значнай ступені праходзіць праз мусульманскі квартал. Гэта ўжо зусім не той выгляд і асяроддзе, што было амаль дзве тысячы гадоў таму, не тая архітэктура, бо за мінулыя стагоддзі тут адкладаліся археалагічныя пласты і шматразова змяніліся будынкі. Крэпасць Антонія была разбурана Цітам разам з амаль усім Ерузалемам пасля падаўлення яўрэйскага паўстання ў 70 годзе.

У 135 годзе імператар Адрыян загадаў на руінах Ерузалема пабудаваць рымскую калонію Элія Капіталіна, забараніўшы адначасова яўрэям сяліцца ў горадзе. На месцы, дзе раней была крэпасць, стварылі вялікі форум, а на ім пабудавалі браму з трох арак. Адна з меншых бакавых арак называецца "Ecce Homo" і знаходзіцца цяпер у царкве сясцёр Сіёна на Віа Далароза, а цэнтральная частка аркі бачна над вуліцай паміж будынкамі з абодвух бакоў. Гэтая частка Віа Далароза вядзе да Львінай брамы. Як найбольш характэрная, яна паказана на марках і паштоўках.

У 2012 годзе ізраільская пошта выпусціла марку з выглядам на вуліцу, намаляваным Людвігам Блюмам ў 1946 годзе.

Ні ў Евангеллях, ні ў гістарычных крыніцах не згадваецца, якім шляхам Езуса вялі з горада да месца ўкрыжавання. У пачатку візантыйскіх часоў паломнікі, прыбыўшы ў Ерузалем, ішлі працэсіяй з царквы на Аліўнай гары праз Львіную браму ў напрамку Галгофы. У сярэднія вякі, пасля распаду хрысціянства на Усходняе і Заходняе, кожная рэлігійная групоўка ўсталёўвала свой уласны маршрут Крыжовага шляху. Канчатковы маршрут Ерузалемскага Крыжовага шляху быў усталяваны ў XVIII стагоддзі з васьмю стацыямі. У наступным стагоддзі дадалі і вызначылі месцазнаходжанне шасці іншых стацый, згодна з еўрапейскай традыцыяй. У цяперашні час Крыжовы шлях ад месца суда над Езусам да месца ўкрыжавання падзелены на 14 стацый. Дзевяць з іх размешчаны на Віа Далароза, а пяць апошніх – унутры базілікі Святога Гроба Пана.

Сцэны мукі Езуса на Крыжовым шляху паказаны на многіх паштовых марках. Адзін з апошніх выпускаў уяўляе серыю з 14 марак Рэспублікі Харватыя, выдадзенай у 2011 годзе. Мастак намаляваў вельмі эмацыянальныя і прасторавы вобраз стацый. Дамінуючыя колеры – жоўты, залаты і чорны. Сцэна асуджэння мае больш за ўсё жоўтага колеру, у сцэне распяцця яго найменш. Гэта напамін аб біблійным апісанні цёмнага неба ў момант смерці Езуса, а таксама аб барацьбе паміж дабром і злом. І толькі як намёк на ўваскрасенне – праблеск блакітнага неба ў сцэне пахавання.

На блоку, выдадзеным поштай Ізраэля ў 1978 годзе з нагоды філатэлістычнай выставы, адлюстраваны старэйшы з вядомых план Ерузалема ў адпаведнасці з фрагментам мазаікі з VI стагоддзя ў горадзе Мадаба, у цяперашні час на тэрыторыі Ярданіі, недалёка на паўднёвы захад ад Амана. Мазаіка, якая паказвае карту Палестыны і суседніх краін, была знойдзена ў 1884 годзе падчас будаўніцтва праваслаўнай царквы на руінах больш ранняй святыні. На гэтай мазаіцы Ерузалем названы па-грэчаску "Hagiapolis", або Святы горад. Фрагмент, які паказвае Ерузалем, адлюстроўвае, між іншым, галоўныя вуліцы з аркадамі, якія ідуць ад Дамаскай брамы з поўначы на поўдзень і з усходу на захад, калоны Адрыяна, Вежу Давіда і базіліку Святога Гроба Пана.

Базіліка Гробу з'яўляецца самым старэйшым хрысціянскім культавым будынкам у Ерузалеме. Яе будаўніцтва пачалося па загадзе імператара Канстанціна неўзабаве пасля Нікейскага Сабору. Першапачаткова яна складалася з трох частак: сад Юзафа Арымафейскага ў форме дворыка з каланадай, дзе была скала Галгофы, базіліка "Anastasis" – маўзалей пустой грабніцы ў форме ратонды, і Мартырыён – святая частка Святыні. Цяперашняя структура базілікі, неаднаразова перабудаваная і пашыраная, паходзіць яшчэ з часоў крыжаносцаў і аб'ядноўвае пад агульным дахам усе даўнейшыя рэлігійныя элементы.

Базіліка Гробу Пана паказана, між іншых, на




паштовых марках Ярданіі (1963, 1966 г.) і Ватыкана (у серыі, апублікаванай у 1964 г. з нагоды візіту Папы Рымскага Паўла VI у Святую Зямлю).

***Лявон Карповіч***

З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

Nasz Dziennik.pl

### *Папу запрасілі ва Украіну*

***Пантыфіку ўручылі ліст прэзідэнта Пятра Парашэнкі з запрашэннем, і ён адказаў, што прыедзе ва Украіну.***

*Наведаць Украіну Францішка запрасілі таксама мясцовыя біскупы. Прамаўляючы 20 лютага на супольнай аўдыенцыі для епіскапатаў абодвух абрадаў, кіраўнік украінскіх грэкакатолікаў накіраваў Святому Айцу "з боку каталіцкіх і праваслаўных хрысціян, а таксама людзей добрай волі запрашэнне наведаць у адпаведны час Украіну. Мы ўпэўнены, што гэты візіт прынясе супакой у тую частку ўсходняй Еўропы, якая арошана крывёй стольках мучанікаў за адзінства Касцёла, – сказаў абп Святаслаў Шаўчук. – Гэта быў бы прарочы жэст, каб паказаць моц хрысціянскай малітвы і салідарнасці. Ён дадаў бы нам адвагі і надзеі на будаўніцтва лепшай будучыні для ўсіх".*




### *Польскія францішканцы будуць беатыфікаваны ў Перу*

***А. Збігнеў Стшалкоўскі і а. Міхал Тамашэк будуць беатыфікаваны як мучанікі.***

*Польскія манахі былі забіты ў 1991 годзе. Тэрарысты забілі іх, сцвярджаючы, што "яны ашуквалі народ, абвяшчалі супакой і ўсыплялі людзей рэлігіяй праз Ружанец, Імшы, чытанне Святога Пісання; прывялі да таго, што жыхары ваколіц супрацьстаялі рэвалюцыі". Урад Перу пасмертна ўшанаваў іх адзнакай "El Sol de Preú" – "Сонца Перу".*

*У 24-ю гадавіну мучаніцкай смерці айцоў Збігнева і Міхала, 9 жніўня 2015 г., у Пар'якота адбудзецца ўрачыстае адкрыццё магіл мучанікаў і ўзяцце іх рэліквій.*

Catholic.by
Рыма-Каталіцкі Касцёл у Беларусі

### *Самая пажылая манахіня ў свеце*

***Сястра Кандзіда Белоці жыве ў Італіі, 20 лютага ёй споўнілася 108 гадоў.***

*Мінулым летам з нагоды 400-годдзя з дня смерці заснавальніка супольнасці Каміла дэ Леліса манахіня здзейсніла пілігрымку ў Рым і прыняла ўдзел у святой Імшы, якую ўзначаліў папа Францішак.*

*Кажучы пра сакрэты свайго даўгалецця, манахіня, пры жыцці якой змянілася 10 Папаў, сказала: "Прыслухацца да голаса Хрыста і быць паслухмяным Яго волі. На працягу ўсяго свайго жыцця я была ўпэўнена: куды б Бог ні прывёў, гэта правільнае месца для мяне".*

***Кінга Красіцкая***

## Дзіцячаму праекту "Анёлы дабра" споўніўся год

*Ужо на працягу года валанцёры "Карытас-Гродна" кожную нядзелю наведваюць маленькіх пацыентаў у артапедычна-траўматалагічным аддзяленні дзіцячай абласной бальніцы, дзе арганізоўваюць розныя мерапрыемствы, конкурсы, выстаўкі дзіцячай творчасці і г.д. Кожны свой прыход валанцёры рыхтуюць загадзя, каб прынесці дзецям як мага больш радасці, цяпла і шчасця.*



Дзяцей, якія самастойна могуць рухацца, валанцёры чакаюць у гульнявым пакоі з настольнымі гульнямі, алоўкамі і фламастэрамі. Для ляжачых хворых у валанцёраў падрыхтаваны спецыяльныя забавы адразу ў палаце.

Маленькія пацыенты, якія ўжо не першы раз знаходзяцца ў гэтым аддзяленні, прызнаюцца, што прыход валанцёраў для іх заўсёды свята.

## Духоўныя практыкаванні для катэхетаў

*20–22 лютага ў Гродне адбыліся рэкалекцыі для студэнтаў катэхетычных курсаў пры Аддзеле навучання і выхавання Гродзенскай курыі. Рэкалекцыйныя разважанні, якія канцэнтраваліся на тэме веры, праводзіў а. Эдуард Пяцельчыц CSsR.*



Духоўныя практыкаванні праходзілі ў сямейнай атмасферы, чаму спрыяла і тое, што ўсе студэнты катэхетычных курсаў знаёмы паміж сабой. Удзельнікі мелі магчымасць адкрыцца адзін на аднаго і смела дзяліцца сваімі радасцямі і цяжкасцямі ў перажыванні веры, а таксама задаваць смелыя і нярэдка складаныя пытанні на тэму веры рэкалекцыяністу.

Падчас рэкалекцый былі ўзняты наступныя тэмы: вера як сустрэча; вера як адказ; вера і яе крызіс; вера як маё пасланне.

## Выйшла кніга пра навагрудскі цудадзейны абраз Маці Божай

*25 лютага ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў межах круглага стала "Старажытнасці Навагрудчыны" адбылася прэзентацыя выдання "Кніга цудаў Навагрудскай іконы Багародзіцы як помнік гісторыі XVII стагоддзя" беларускага гісторыка і грамадскага дзеяча Мікалая Нікалаева.*



Гэтае выданне змяшчае публікацыю арыгінала і пераклад на сучасную беларускую мову выдання 1673 года, прысвечана гісторыі і апісанню цудаў навагрудскай іконы Маці Божай. Аўтар змясціў у кнізе кароткі гістарычны нарыс Навагрудка ў час атрымання гэтага абраза, а таксама апісанне мясцовай рэзідэнцыі ордэна езуітаў.

Вядома пра чатыры экзэмпляры арыгінала кнігі 1673 года. Адзін знаходзіцца ў Кракаве, другі ў Варшаве, трэці ў Вільні, а чацвёрты, якім і карыстаўся аўтар пры падрыхтоўцы выдання, у Пецярбургу, у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы.

У прадмове да кнігі аўтар адзначыў: "Я спяшаюся надрукаваць тэкст вельмі рэдкай кнігі пра гэты абраз і сабраныя звесткі пра гісторыю навагрудскіх езуітаў, якія ім валодалі, каб далучыць да абмеркавання гістарычнай спадчыны зямлякоў і сяброў".

Зацікаўленыя ў набыцці новай кнігі пра цудадзейны абраз і гісторыю Навагрудчыны могуць звярнуцца да аўтара, напісаўшы на e-mail: nikolaev@nlr.ru.

## "Яго служэнне заслугоўвае асаблівай ацэнкі і павагі"

*28 лютага ў парафіі св. Антонія і Абʼяўлення Пана ў Каменцы адбыліся ўрачыстасці ў памяць ксяндза прэлата Юзафа Грасевіча. 1 сакавіка адзначаецца 15-я гадавіна смерці гэтага душпастара, які ў апошнія гады свайго святарскага служэння быў пробашчам дадзенай парафіі.*



Кс. Грасевіч зʼяўляецца сузаснавальнікам манаскай супольнасці Сясцёр Маці Міласэрнасці, сябраваў з блаславёным кс. Міхалам Сапоцькам, паспрыяў захаванню ад знішчэння арыгінала цудатворнага абраза Езуса Міласэрнага, напісанага паводле ўказанняў святой с. Фаўстыны па жаданні самога Хрыста.

У гаміліі падчас урачыстай св. Імшы Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў: "Калі б не было святароў фармату кс. прэлата Юзафа Грасевіча, не было б і такога хуткага адраджэння Касцёла ў нашай краіне. Яны захавалі веру ў народзе і падрыхтавалі яго да выкарыстання новых магчымасцей, якія дае свабода веравызнання. Сёння мы дзякуем Богу за гэтага правідэнцыйнага пастара. Дзякуем яму самому за тое, што, нягледзячы на пераслед і цяжкасці святарскага служэння ў часы ганенняў на Касцёл, ён застаўся верны свайму святарскаму пакліканню".

На заканчэнне Імшы бп Аляксандр Кашкевіч адзначыў таксама, што кс. Юзаф Грасевіч сапраўды быў святаром паводле Божага Сэрца, які асаблівым чынам паспрыяў развіццю культу абраза Езуса Міласэрнага.

Пасля Імшы прысутныя памаліліся на месцы пахавання кс. Юзафа каля парафіяльнай святыні.

## Навучэнцы семінарыі прынялі паслугі лектарату і акалітату

*22 лютага, у І нядзелю Вялікага посту, у гродзенскім касцёле св. Францішка Ксаверыя біскуп Юзаф Станеўскі ўстанавіў навучэнцаў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне лектарамі і акалітамі. Да духоўных паслуг было прадстаўлена восем кандыдатаў.*



Для абвяшчэння Божага слова пакліканы найперш біскупы, святары і дыяканы. У выкананні гэтага абавязку ім дапамагаюць лектары. У супольнасці вернікаў лектары чытаюць Божае слова, тым самым выхоўваючы ў веры дзяцей і дарослых, рыхтуючы іх да годнага прыняцця сакрамантаў.

Акалітат – паслуга ў Касцёле, прызначаная для падтрымкі дыяканаў і святароў. Акаліты могуць дапамагаць раздаваць вернікам святую Камунію, а таксама адносіць яе хворым і пажылым.

Падчас св. Імшы іерарх звярнуўся да вернікаў з просьбай аб малітве ў інтэнцыі семінарыстаў, якія атрымалі вышэйзгаданыя дары, каб яны маглі годна несці служэнне, даверанае ім Касцёлам згодна з воляй Пана.

Ва ўсіх касцёлах Гродзенскай дыяцэзіі ў гэты дзень былі зачытаны пастарскі ліст біскупа Аляксандра Кашкевіча на І-ю нядзелю Вялікага посту.

**УВАГА! КОНКУРС!**

Арганізатары V Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці ў межах падрыхтоўкі да дзіцячага свята абʼяўляюць першы конкурс.

Сёлета паўсюдны Касцёл перажывае Год кансэкраванага жыцця. Большая ўвага звяртаецца на кансэкраваных асоб – манаскіх сясцёр і айцоў. У многіх парафіях узносяцца малітвы ў інтэнцыі новых пакліканняў да паслугі ў Касцёле.

Дарагія Дзеці! Мы прагнем далучыць Вас да гэтай супольнай справы. Прапануем уважліва прыглядзецца да сясцёр, якія вядуць катэхезу ў Вашых парафіях, і да айцоў пры алтары (не дыяцэзіяльных ксяндзоў, а менавіта тых, хто належыць да манаскай сямʼі!) і пасправаваць намаляваць іх партрэт.

**Умовы ўдзелу ў конкурсе:**

- **узрост да 14 гадоў;**
- **малюнак павінен быць фармату А4 (не меншы, не большы);**
- **на малюнку павінны быць адлюстраваны манаская сястра ці айцец;**
- **трэба падаць поўную назву ордэна ці супольнасці намаляванай асобы, а таксама яе імя і прозвішча;**
- **малюнак павінен быць дасланы да 31 сакавіка гэтага года на адрас: вул. К. Маркса, 4, Гродна 230025. Абавязкова з подпісам на канверце "Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці".**

Найлепшыя працы будуць узнагароджаны. Невялікія падарункі будуць высланы поштай.

Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці традыцыйна запланаваны на 1 чэрвеня бягучага года і пройдзе ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ.

Падрабязную інфармацыю на тэму конкурса і Дня дзіцяці можна атрымаць, напісаўшы на электронны адрас sakralna@op.pl або патэлефанаваўшы на нумар (+37529) 78-40-572. Можна таксама падаць свае прапановы, звязаныя з V Дыяцэзіяльным днём дзіцяці.

***Чакаем Вашых прац!***

***З найлепшымі пажаданнямі кс. Юрый Марціновіч, арганізатар.***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці адрозніваецца для Вас перыяд Вялікага посту ад астатніх дзён?***

*14,1% так, я кардынальна змяняю сваё жыццё*

*78,2% так, у мяне ёсць пэўная пастанова*

*1,3% не, ён такі самы, як іншыя дні года*

*6,4 % цяжка сказаць, я яшчэ не вырашыў(ла)*

*У апытанні з мінулага нумара прагучала пытанне, як перыяд Вялікага посту змяняе жыццё чалавека і чым ён адрозніваецца ад іншых перыядаў чалавечага жыцця. Большасць рэспандэнтаў адказала, што мае спецыяльныя пастановы, якія стараецца прыняць і выканаць у гэты перыяд. Але ёсць таксама тыя, хто падчас гэтага перыяду кардынальна хоча змяніць сваё жыццё.*

***Вынікі чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Перыяд Вялікага посту становіцца для нас перш за ўсё духоўнай падрыхтоўкай да найбольшай Божай таямніцы. Гэтая падрыхтоўка звязана, перш за ўсё, з жаданнем змяніць уласнае жыццё на лепшае. Мы слабыя, а таму праз прынятыя пастановы мы клапоцімся аб сваёй душы. Некаторыя хочуць выкарыстаць гэты час ласкі і зрабіць у сваім жыцці кардынальныя змены. Гэта заслугоўвае пахвалы, таму што кожны з нас патрабуе навяртання і развіцця веры ў Евангеллі. Ёсць таксама і тыя, хто выбірае канкрэтныя пастановы, каб таксама пэўным чынам змяніць сваё жыццё. Няхай усе нашы добрыя пачынанні пойдуць на Божую хвалу і для нашай унутранай карысці.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**10 сакавіка 1932 г.** – кс. Вінцэнт Сідорскі, *проб. Дуды;*
**10 сакавіка 1943 г.** – кс. Аляксандр Аўгустыновіч, *проб. Нецеч;* кс. Альфонс Бароўскі, *проб. Ляцк;* кс. Францішак Цыбульскі, *проб. Трабы;* кс. Стэфан Дабравольскі, *проб. Беліца;* кс. Вінцэнт Лабан, *проб. Ліда-Слабада;* кс. Люцыян Мрачкоўскі, *вік. Ліда-Слабада;* кс. мг-р Юрый Ажароўскі, *проб. Ліпнішкі;* кс. Стэфан Снягоцкі, *вік. Ліда-Фара;*
**12 сакавіка 1969 г.** – кс. Ян Велькевіч SDB, *проб. Дзятлава;*
**22 сакавіка 2014 г.** – кс. Казімір Войнюш, *проб. Ішчолна і Скрыбаўцы.*

*При падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*
*Рада вітаць Вас гэтай вясной. Спадзяюся, наперадзе ў нас шмат адкрыццяў і цікавых сустрэч. На гэты раз запрашаю Вас на моладзевую пляцоўку, каб паразважаць аб інструменце нашых думак і ўчынкаў, навошта хаваць парасон ад дажджу і чаму так важна мець перспектыўны план на будучыню.*

***Што ж, наперад з Богам!***


*Ангеліна Пакачайла*

# Увесці звычку задумвацца перад "стрэлам"

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:**
***"Пачатак мудрасці – страх Гасподні" (Прып 9, 10).***
Шанаванне Пана – першы крок да мудрасці, пазнанне Святога – першы крок да разумення. Чалавек ніколі не памыліцца, калі назапашаныя веды будзе выкарыстоўваць як Божы дар, інструмент для спасціжэння святасці.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:**
***каб усе людзі, якія вядуць навуковыя даследаванні, ставілі перад сабой мэту служэння агульнаму дабру чалавека***
Далёка не ўсе навуковыя даследаванні вядуцца згодна з вучэннем Касцёла. А значыцца, не на карысць духоўнаму вопыту чалавека (проста неабходна разглядаць два бакі медалі). Сярод найбольш вядомых прыкладаў – дапаможная рэпрадуктыўная тэхналогія ЭКА. На момант стануць шчаслівымі бацькі, але ігнаруецца той факт, што такія дзеці хутчэй за ўсё не змогуць мець сваіх дзяцей і хварэюць яны ў некалькі разоў часцей за іншых. Змены ў свядомасці грамадства – жыццё можна ствараць за грошы.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА:**
***розум***
У адрозненні ад жывёлы, Бог надзяліў чалавека розумам. Дзякуючы гэтаму, людзі могуць думаць, аналізаваць, свядома здзяйсняць нейкія ўчынкі. Жывёлы ж прытрымліваюцца інстынктаў. З сумам даводзіцца назіраць за чалавекам, які забываецца пра сваю сутнасць і пачынае дзейнічаць як звер.

**МЭТА МЕСЯЦА:**
***увесці звычку задумвацца перад "стрэлам"***
Магчыма, менавіта гэта дапаможа пазбегнуць многіх памылак у будучым. Чалавек мае магчымасць разважаць над сваімі ўчынкамі і прымаць свядомыя рашэнні. Калі ён раптам перастае задумвацца над тым, што робіць, атрымліваецца бязглуздзіца: быццам маеш парасон, але на дождж выходзіш без яго. Таму, як дзіўна гэта не гучыць, карыстацца розумам проста неабходна. Па-першае, рызыка зрабіць памылку нашмат меншая, па-другое, большая верагоднасць захаваць унутраны супакой.

**СПРАВА МЕСЯЦА**
***з аркушам паперы паразважаць аб мэтах свайго жыцця***
Вядома, лягчэй за ўсё ісці некуды, калі ведаеш напрамак. Калі мэты размытыя, то і дарога бессэнсоўная. Моладзь – гэта тая група людзей, якая якраз знаходзіцца на парозе вызначэння: вымалёўваюцца абрысы ідэалаў, прынцыпаў, мараў. Карацей кажучы, каб распрацаваць маршрут, патрэбна ведаць канчатковы пункт. Поспехаў у выбары арыенціра!

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА:**
***"Ніхто не ведае", Сяргей Брыкса***
"Бог, Ён прыдумаў гэты свет, Ён стварыў Сусвет". Са слоў праслаўлення пачынаецца адна з песень вядомага хрысціянскага выканаўцы Сяргея Брыксы. Увогуле, яна ўся прасякнута сэнсам любові і даверу да Бога, які падарыў свету Сына, "над злом перамогу атрымаў, цемру няверы прагнаў". Выканаўца заклікае чалавека задумацца, што Госпад можа прыйсці ў любы момант. Ніхто не ведае, калі гэта здарыцца, таму трэба заўсёды быць гатовым да такой сустрэчы.

**КНІГА МЕСЯЦА:**
***"Зараз важны толькі Ён"***


У кнізе сабраны гісторыі навяртанняў людзей, якія на некаторым этапе свайго жыцця сустрэлі Бога. Сярод іх і такія вядомыя асобы, як Фрыдэрык Шапэн, Эдзіт Штайн, Гілберт Кійт Чэстэртон. "Гісторыі навяртанняў, апісаныя ў гэтай кнізе, блізкія сучаснаму чалавеку, – напісана ў анатацыі. – У іх бачна, як тыя людзі шукалі адказы на пытанні, што мучалі іх душу, і ў выніку знаходзілі Бога. З тых пор для іх стаў важны толькі Ён".

**АСОБА МЕСЯЦА:**
***святы Дамінік Савіо***

Нарадзіўся Дамінік 2 красавіка 1842 года ў вёсцы Рыва (Італія). Паходзіў з сялянскай сям'і. Ва ўзросце сямі гадоў прыступіў да Першай святой Камуніі. У той жа дзень зрабіў сабе наступныя пастановы: будзе часта прыступаць да споведзі і прымаць святую Камунію, за лепшых сяброў абірае Езуса і Марыю і выражае, што лепш смерць, чым грэх.
У 1854 годзе Дамінік стаў студэнтам араторыя св. Францішка Сальскага ў Турыне. Там ён утварыў Таварыства Беззаганнай, каб маліцца і дапамагаць людзям.
Дамінік часта прасіў працаўнікоў, каб тыя не праклінялі. І людзі прыслухоўваліся да яго. Калі ў маладога чалавека пыталі, чаму ў яго засмучаныя вочы, ён адказваў: "Я хачу зберагчы іх для сузірання неба".
У 1856 годзе Дамінік моцна захварэў на туберкулёз. Урач наказаў хлопцу ехаць дадому ў надзеі, што клопат бацькоў дапаможа яму стаць на ногі. Але, развітваючыся з сябрамі, Дамінік прадчуваў, што не вернецца. Ён памёр праз некалькі месяцаў, 9 сакавіка 1857 года. Адыходзячы, усклікаў: "Бывай, ойча! Бывай! Я бачу такія выдатныя рэчы!".
У 1950 годзе папа Пій XII аб'явіў Дамініка блаславёным. Да ліку святых ён быў прылічаны праз чатыры гады.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў сакавіку?***
*Св. Казімір (4 сакавіка), св. Агнешка (6 сакавіка), св. Дамінік (9 сакавіка), св. Крысціна (13 сакавіка), св. Патрык (17 сакавіка), св. Кірыл (18 сакавіка), св. Кацярына (24 сакавіка), св. Леанард (30 сакавіка).*

*Усе заўвагі, пажаданні і конкурсныя лісты дасылаць на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*




# Пасыпанне попелам галавы – шанс, каб выправіцца

18 лютага гродзенскія вернікі разам з паўсюдным Касцёлам распачалі Вялікі пост. Святую Імшу ў Папяльцовую сераду ў гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У літургіі прынялі ўдзел шматлікія вернікі, а таксама святары, кансэкраваныя асобы і навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.
У гаміліі біскуп звярнуў асаблівую ўвагу на тры важныя элементы перажывання велікапоснага перыяду ў Касцёле – малітву, пост і міласціну.











## Допустимо ли католику иметь дома статуэтку Будды?

*Между прочим, статуэтка Будды – важный атрибут фэншуй. Но, как мы знаем, далеко не единственный. Разумеется, если католик начинает приписывать этой статуэтке какие-то магические или божественные свойства, то речь идет даже не о допустимости или недопустимости, а о том, что вообще творится в голове у этого католика и в его духовной жизни.*

*Если же кто-то хранит у себя дома такой подарок или привез его в память о посещении Азии – то это никак не может быть недопустимым, если только не является соблазном для ближнего. Например, если наши друзья увлекаются восточными духовными практиками, ставя их в один ряд с христианством, а мы хотим быть свидетелями веры в Иисуса Христа, единственного Спасителя, то неожиданное приобретение нами статуэтки Будды может стать для этих друзей соблазном.*
*Заметим, что статуя Будды есть и… в Ватикане. Далеко не все туристы в курсе, что Музеи Ватикана включают в себя и большой Миссионерский этнологический музей, не всегда открытый для посетителей. Этот музей был создан 12 ноября 1926 года папой Пием XI посредством motu proprio «Quoniam tam praeclara». Вначале музей располагался в Латеранском дворце, а в 1963 году папа Иоанн XXIII решил переместить его в Ватикан. В музее выставлены более 100 тысяч экспонатов – как восходящих к эпохе первых миссий, так и подаренных Римским Папам в последние десятилетия правительствами стран, где действуют католические миссии. В музее есть и алебастровые статуи Будды крупных размеров, привезенные миссионерами из Азии.*




# ІДЗЕМ ДА ПЕРШАЙ СВЯТОЙ КАМУНІІ

## Святыя сакраманты

### Сакрамант намашчэння хворых

Вы, напэўна, чулі ў парафіяльных аб'явах, што ў час рэкалекцый ці спецыяльнай св. Імшы будзе ўдзяляцца сакрамант намашчэння хворых.

Хворым і пажылым людзям гэты сакрамант павінен дапамагчы перажыць хваробу і розныя звязаныя з пажылым узростам недамаганні.



Безумоўна, калі ёсць такая неабходнасць, гэты сакрамант прымаюць таксама і цяжка хворыя дзеці, нават тыя, што яшчэ не прыступілі да сакраманту пакаяння і паяднання ці сакраманту Эўхарыстыі.

Часам людзі баяцца прапанаваць сваім бліжнім прыняць гэты важны сакрамант. Яны лічаць, што яго ўдзяляюць толькі паміраючым, а яны ні ў якім разе не жадаюць нікому смерці. Аднак сакрамант намашчэння хворых удзяляецца не толькі перад смерцю. Калі ўзнікае такая неабходнасць, яго можна прымаць нават некалькі разоў у жыцці.

Часта здараецца, што пасля прыняцця сакраманту намашчэння людзі выздараўліваюць. Калі так не адбудзецца, сакрамант, бясспрэчна, узмацняе іх і дазваляе мужна і цярпліва перажываць хваробу.



Падчас удзялення сакраманту святар моліцца, каб Пан Бог аблегчыў пакуты хворага.

Прымаючы сакрамант намашчэння, хворы яднае свае пакуты з пакутамі Пана Езуса. Яны маюць вялікую каштоўнасць. Такія пакуты можна таксама за кагосьці ахвяраваць.

Не бойцеся прапанаваць хворым людзям прыняць сакрамант намашчэння хворых.



Будзьце з хворымі. Вы ім вельмі неабходны. Гэта можа быць прабабуля ці дзядуля, хворая сяброўка ці сябар. Варта прысвяціць ім трохі часу, расказаць пра тое, што адбывалася на падворку ці ў школе, можа, пачытаць ім. Гэта не будзе каштаваць вам шмат, а кагосьці зробіць шчаслівым.

*Крыніца: часопіс „Dominik idzie do I Komunii Świętej"*

# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай св. Заступнік штодзённа Вам спадарожнічае ў дарозе да святасці і да людскіх сэрцаў, усемагутны Бог няхай ахінае Вас сваім бласлаўленнем, а Маці Божая нястомна Вамі апекуецца, прытуляе да сябе, абараняе ад усякага зла і бласлаўляе Вашу душпастарскую працу, а Анёл-ахоўнік няхай асцерагае заўсёды і ўсюды на працягу ўсяго жыцця.

*З павагай і малітвай вернікі з пар. Заневічы*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і біскупскай паслугі. Няхай здароўе будзе моцным, супакой заўсёды жыве ў сэрцы, радасць не пакідае, а моц не слабее. Няхай св. Заступнік нястомна чувае, а Найсвяцейшая Панна Марыя – Маці ўсіх святароў – ахінае плашчом мацярынскай любові і вядзе па дарозе да свайго Сына – Езуса Хрыста.

*Любячая мама разам з усёй сям'ёй*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай Вашае жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі, а ў сэрцы жыве радасць, дабрыня, любоў і надзея. Няхай дароўе заўсёды спрыяе, а моц ніколі не пакідае. Няхай Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а св. Заступнік заўсёды чувае над Вамі.

*З павагай Яніна і Рышард Станеўскія з усёй сям'ёй*

Паважанаму Айцу Казіміру Жылісу з нагоды юбілею 70-годдзя і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, аптымізму, сілы і стойкасці на жыццёвым шляху, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі св. Казіміра на кожны дзень.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку з нагоды Імянін перасылаем мноства найлепшых пажаданняў здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастарскай працы, нязгаснай любові і веры, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог бласлаўляе Вас заўсёды і ўсюды! Шчасці Божа!

*З памяцю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Селіванаўцаў*

Дарагому Спадару Тадэвушу Вайцеховічу з нагоды юбілею 50-годдзя ад усяго сэрца жадаем здароўя, няспыннай радасці, сілы для пераадолення ўсіх цяжкасцей, нязгаснай надзеі, добрых людзей побач, радасці ад дзяцей і шчасця на кожны дзень. Няхай з Вашага твару ніколі не знікае ўсмешка, а над галавой заўсёды свеціць сонца. Шчасці Божа!

*Санько Марыя, Анастасія і Надзея са Шчучына, сям'я Утаўка*

Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка, усіх дароў Святога Духа, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю, любоўю, верай і надзеяй на лепшае.

*Яна, Валерый, Вераніка*

Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураве з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў усіх Божых ласкаў: здароўя, супакою, радасці, разважлівасці, моцы ў выкананні святарскай паслугі, дабрыні і надзеі ў сэрцы. Няхай Маці Божая і св. Заступнік нястомна чуваюць над Вамі, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жупранаў*

Паважаным Айцу Казіміру Енджэйчаку і Ксяндзу Казіміру Мараўскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем свае шчырыя пажаданні. Няхай Бог усемагутны адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая нястомна апекуецца. Няхай здароўе будзе моцным, радасць штодзённай, сілы бясконцымі, а сэрцы далей застаюцца добрымі і адкрытымі на Бога і людзей.

*Парафіяне з Ятвезі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, сілы і поспехаў у рэалізацыі ўсіх спраў. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі. Дзякуем за клопат пра парафіян і святыню. Шчасці Божа!

*Удзячныя вернікі з пар. св. Францішка Асізскага ў Свіслачы*

Паважанаму Ксяндзу Збігневу Драгулу з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, сілы і стойкасці ў святарскай паслузе, дабра і зычлівасці ад людзей навокал, а таксама Божага бласлаўлення на кожны дзень. Няхай Вас заўсёды ахінае сваёй любоўю Найсвяцейшая Маці, а св. Заступнік нястомна апекуецца і вядзе па дарозе да збаўлення.

*З маліtoўнай памяцю члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Старых Васілішкаў*

Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў добрага здароўя на доўгія гады, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, спакойных і радасных дзён, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне з в. Шэмбелеўцы*

Паважанаму Айцу Раману Цесляку з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Маці Божая Нястомнай Дапамогі няхай ахінае сваім мацярынскім плашчом, а св. Заступнік заўсёды апекуецца і моцна трымае за руку, суправаджаючы Вас па жыцці. Няхай Ваша паслуга прыносіць шчодры плён на ніве Пана. Шчасці Божа!

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Парэчча*

Паважанаму Ксяндзу Казіміру Жывалеўскаму з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божым бласлаўленнем, дарамі Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Маці. Няхай здароўе будзе моцным, аптымізм не слабее, а вера, надзея і любоў заўсёды госцяць у сэрцы.

*Сям'я Жывалеўскіх*

Шаноўнай Спадарыні Ядзвізе Габрукевіч з нагоды юбілею 90-годдзя жадаем усяго самага лепшага: Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, моцнага здароўя, сіл і стойкасці, спакойнай старасці і аптымізму. Няхай у сэрцы заўсёды госціць супакой, на твары – усмешка, а ў доме – Бог.

*Ружа МБ Балеснай з пар. Тэалін, Сапоцкін*

Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураве з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай св. Казімір – Ваш нябесны заступнік – выпрошвае для Вас у Пана шмат сілы, цярплівасці, здароўя і доўгіх гадоў жыцця. Няхай Бог бласлаўляе Вас, адорвае шчасцем, усмешкай, поспехам і дазваляе радавацца плёну святарскай працы. Шчодрых дароў і моцы Святога Духа, павагі, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху.

*З удзячнасцю былыя парафіяне*

Паважаны Ксёндз Казімір Жыліс! У светлы дзень Вашага Юбілею і Імянін прыміце шчырыя віншаванні і словы падзякі за ўсе Вашы старанні. Вы дапамагаеце людзям узрастаць і сталець духоўна, станавіцца больш добрымі і памяркоўнымі адзін да аднаго. Дзякуй Вам за веру ў людзей, а Богу – за тое, што паслаў нам Вас. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе доўгі, светлы і радасны.

*З удзячнасцю парафіяне*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1282; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная